Глава 5

Vepcii

12 СНЕЖНЯ 1997 ГОДА.
ПЕРШЫ ПАДЫХОД.

МЯНЕ ЗАВУЦЬ АДАМ С'ЮЗЭН. Я ЛІДАР.

ЛІДАР І УЛАДАР РУІН.

Я ТАКІ Ж ЧАЛАВЕК, ЯК І АСТАТНІЯ.

Я ВЯДУ КРАІНУ ДА СВЯТЛА З ЦЕМРЫ ДВАЦЦАТАГА СТАГОДДЗЯ. Я ВЕРУ Ў ВЫЖЫВАННЕ. У ПРЫЗНАЧЭННЕ НАРДЫЧНАЙ РАСЫ. ВЕРУ Ў ФАШЫЗМ.

ТАК,Я ФАШЫСТ. ШТО З ТАГО? ФАШЫЗМ? ПРОСТА СЛОВА, ЗНАЧЭННЕ ЯКОГА ПАТАНУЛА Ў НЫЦЦІ СЛАБАКОЎ І ЗДРАДНІКАЎ.

ФАШЫЗМ ВЫНАЙШЛІ РЫМЛЯНЕ. ЯГО СЫМБАЛЁМ БЫЎ ЗВЯЗАК ПРУТКОЎ

АДЗІН ПРУТОК МАГЧЫМА ЗЛАМАЦЬ. ЗВЯЗКУ -НЕМАГЧЫМА... МОЦ Ў АДЗІНСТВЕ.

Я ВЕРУ Ў МОЦ.
Я ВЕРУ Ў АДЗІНСТВА.

КАЛІ ГЭТА МОЦ, ГЭТАЕ АДЗІНСТВА МЭТЫ ПАТРАБУЕ ТАКСАМА АДЗІНСТВА ДУМКІ, СЛОВА І СПРАВЫ, НЯХАЙ БУДЗЕ ТАК.

Я НЕ ВЫТРЫМАЮ БАЛБАТНІ ПРА СВАБОДУ. Я НЕ ВЫТРЫМАЮ БАЛБАТНІ ПРА СВАБОДУ АСОБЫ. ГЭТА РАСКОША. У РАСКОШУ Я НЕ ВЕРУ.

ВАЙНА СТАЛА АДПЛАТАЙ ЗА СВАБОДУ.

ВАЙНА СТАЛА АДПЛАТАЙ ЗА РАСКОШУ.

АДЗІНАЯ СВАБОДА, ЯКУЮ ПАКІНУЛІ МАЙМУ НАРОДУ, - ГЭТА СВАБОДА ПУХНУЦЬ З ГОЛАДУ, СВАБОДА ПАМІРАЦЬ, СВАБОДА ЖЫЦЬ У ХАОСЕ.

НЯЎЖО Я ПАВІНЕН ТРЫВАЦЬ ТАКУЮ СВАБОДУ?

НА МАЮ ДУМКУ, НЕ. НА МАЮ ДУМКУ, НЕ.

ЦІ ПАВІНЕН Я КАРЫСТАЦЦА СВАБОДАЙ, У ЯКОЙ Я АДМАЎЛЯЮ АСТАТНІМ? НЕ. Я СІЖУ ТУТ БЫЦЦАМ БЫ Ў КЛЕТЦЫ. Я ТОЛЬКІ СЛУГА. Я ЗАГАДВАЮ УСІМ, ШТО Я БАЧУ.

Я БАЧУ СПУСТОШВАННЕ. БАЧУ ПОПЕЛ. МНЕ НАЛЕЖЫЦЬ УСЁ. МНЕ НЕ НАЛЕЖЫЦЬ НІЧОГА.

У ІХ НЯМА ДЛЯ МЯНЕ КАХАННЯ, Я НЕ ВЕДАЮ НІ ДУХОЎНАГА, НІ ФІЗІЧНАГА. Я НЕ ЧУЎ ПЯШЧОТНАГА ШЭПТУ, НЕ ВЕДАЎ ЛАСКІ, НЕ ВЕДАЎ СПАКОЮ,ЯКІ ЎТОЙВАЕЦЦА ПАМІЖ ЖАНОЧЫМІ СЦЁГНАМІ.

АЛЕ МЯНЕ ПАВАЖАЮЦЬ. МЯНЕ ПАЛОХАЮЦЦА. ГЭТАГА ДАСТАТКОВА

БО Я САМ КАХАЮ, КАХАЮ, НЕ ВЕДАЮЧЫ ЗВАРОТНАГА ПАЧУЦЦЯ. МАЁ КАХАННЕ ГЛЫБЕЙ ЧЫМ БЕССЭНСОЎНЫЯ АБДЫМКІ І СМЕШНЫЯ КАНВУЛЬСІІ ЗАХАПЛЕННЯ.

ЦІ СМЕШНА КАЗАЦЬ ПРА ЯЕ? ЦІ МАГУ Я КАЗАЦЬ ПРА МАЮ НЯВЕСТУ?

У ЯЕ НЯМА ВАЧЭЙ, КАБ ГУЛЯЦЬ І ВАБІЦЬ, АЛЕ ЯНА ЎСЁ БАЧЫЦЬ. БАЧЫЦЬ І РАЗУМЕЕ З МУДРАСЦЮ, САПРАЎДЫ ЧАРОЎНАЙ.

Я СТАЮ КАЛЯ БРАМЫ ЯЕ РОЗУМУ,І СВЯТЛО ГЭТАГА РОЗУМУ СЛЕПІЦЬ МЯНЕ. ЯКІМ ДУРНЫМ Я ПАВІНЕН ЗДАВАЦЦА ЁЙ. ЯКІМ ДУРАСЛІВЫМ І НЯКЕМЛІВЫМ

ЯЕ ДУША ЧЫСТАЯ, ЯНА НЕ ВЕДАЕ ПРАКЛЁНЫ ПАЧУЦЦЯЎ І ЭМОЦЫЙ. ЯНА НЕ ВЕДАЕ НЯНАВІСЦІ, НЕ ВЕДАЕ ЗАЙЗДРАСЦІ, ЯЕ НЕ ЧАПАЮЦЬ НІ РАДАСЦІ, НІ ГАРОТНАСЦІ.

Я ЎШАНОЎВАЮ ЯЕ, ХОЦЬ І НЕ ГОДНЫ.

Я ПЕСТУЮ ЧЫСЦІНЮ ЯЕ ПАГАРДЫ. ЯНА НЕ ПАВАЖАЕ МЯНЕ. ЯНА МЯНЕ НЕ ПАЛОХАЕЦЦА.

ЯНА МЯНЕ НЕ КАХАЕ.

ТЫЯ, ХТО З ЁЙ НЕ ЗНАЁМЫЯ, ДУМАЮЦЬ, ШТО ЯНА ХАЛОДНАЯ І ЖОРСТКАЯ. ЯНА, ЛІЧУЦЬ ЯНЫ, ЗНЕЖЫВЕЛАЯ І ХАЛОДНАЯ.

ЯНЫ НЕ ВЕДАЮЦЬ ЯЕ. ЯЕ ДАТЫКАННЯЎ.

ЯНА ДАКРАНАЕЦЦА ДА МЯНЕ, І Я АДЧУВАЮ ДАТЫКАННЕ БОГА, ДАТЫКАННЕ ЛЁСУ. УСЁ, ШТО ІСНУЕ, РУХАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ ЁЙ. Я ЎШАНОЎВАЮ ЯЕ. Я ЯЕ РАБ.

НІЯКАЯ СВАБОДА НЕ МОЖА БЫЦЬ ТАКОЙ САЛОДКАЙ.

КАХАННЕ МАЁ, Я БУДУ З ТАБОЙ ВЕЧНА, З ТАБОЮ – ЎСЁ МАЁ ЖЫЦЦЕ.

Я БУДУ ЧАКАЦЬ ЛЮБОГА ЗНАКА АД ЦЯБЕ І НІКОЛІ НЕ ПАТРАБУЮ АД ЦЯБЕ ЎВАГІ.

ЛЁС...

ЛЁС...

Я КАХАЮ ЦЯБЕ.

ОЛД-БЭЙЛІ. ДРУГІ ПАДЫХОД.

МАЯ ПАВАГА ДА ВАС, СПАДАРЫНЯ.

САПРАЎДЫ ВЕЧАР ФАЙНЫ?

ПРАБАЧЦЕ ЗА НЕЧАКАНЫ ВІЗІТ. ВЫ, НАПЭЎНА, ЗБІРАЕЦЕСЯ НА ПРАМЕНАД ЦІ ПРОСТА ЛЮБУЮЦЕСЯ ПЕЙЗАЖАМ.

ЗРЭШТЫ, ГЭТА НЕ ІСТОТНА. Я ПАДУМАЎ, ЦІ НЕ ЧАС НАМ ПЕРАМОВІЦЦА САМ-НАСАМ?

АХ, Я ЗАБЫЎ! МЫ Ж НЕ АДРЭКАМЕНДАВАНЫ ЯК МАЕ БЫЦЬ.

У МЯНЕ НЯМА ІМЯ. МОЖАЦЕ КЛІКАЦЬ МЯНЕ V.

СПАДАРЫНЯ ПРАВАСУДДЗЕ – V.

V – ГЭТА СПАДАРЫНЯ ПРАВАСУДДЗЕ.

ПРЫВІТАННЕ, СПАДАРЫНЯ ПРАВАСУДДЗЕ.

ДОБРЫ ВЕЧАР, V.

НУ ВОСЬ, ЗАРАЗ МЫ ЗНАЁМЫЯ. ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО Я ВАШ ДАЎНІ ПРЫХІЛЬНІК? НЕ, ГЭТА НЕ ТОЕ, ПРА ШТО ВЫ ПАДУМАЛІ.

"БЕДНЫ ХЛОПЧЫК ЗАКАХАЎСЯ Ў МЯНЕ.... ЮНАЦКАЯ ПАЛКАСЦЬ."

ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, СПАДАРЫНЯ, НАЖАЛЬ,НІЧОГА АДМЫСЛОВАГА.

Я ДАЎНО ЗАХАПЛЯЮСЯ ВАМІ. ХОЦЬ З ПАВАЖНАЙ АДЛЕГЛАСЦІ, Я ЗАЎСЁДЫ ГЛЯДЗЕЎ НА ВАС ЗНІЗУ ЎГАРУ, ЯШЧЭ КАЛІ БЫЎ ДЗІЦЁМ.

Я ЗАПЫТАЎСЯ Ў СВАЙГО БАЦЬКІ: "ХТО ГЭТАЯ ДАМА?" .ЁН АДКАЗАЎ: "ГЭТА СПАДАРЫНЯ ПРАВАСУДДЗЕ". Я: "ЦІ ЯНА НЕ ЦУД?"

НЕ ПАДУМАЙЦЕ, ШТО ГЭТА БЫЛА ФІЗІЧНАЯ ЦЯГА, Я ВЕДАЮ, ШТО ВЫ НЕ З ТАКІХ, НЕ. Я КАХАЎ ВАС ЯК АСОБУ, ЯК ІДЭАЛ.

АЛЕ ЧАС ПРАЙШОЎ, І Ў ВАС З'ЯВІЛАСЯ СУПЕРНІЦА.

"ЯК?! САРОМЕЦЕСЯ! ВЫ ПРАМЯНЯЛІ МЯНЕ НА ДЗЕЎКУ, НАДЗЬМУТУЮ ПУСТЫШКУ, З КРАШАНЫМІ ВУСНАМІ І РАСПУСНАЙ УХМЫЛКАЙ?"

О, СПАДАРЫНЯ! ДАЗВОЛЬЦЕ НЕ ПАГАДЗІЦЦА. У ЯЕ АБДЫМКІ МЯНЕ КІНУЛА ВАША ЗДРАДА.

АГА!ВЫ ЗДЗІЎЛЕНЫ, ТАК? ДУМАЛІ, Я НЕ ВЕДАЮ ВАШЫХ ІНТРЫЖАК? АЛЕ Я ВЕДАЮ ЎСЁ!

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, Я НЕ БЫЎ ЗДЗІЎЛЕНЫ, КАЛІ ЎСЁ ВЫСВЕТЛІЛАСЯ. ВЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ НЕАБЫЯКАВЫЯ ДА ВАЕННЫХ.

"ВАЕННЫХ? Я НЕ ВЕДАЮ, ПРА ШТО ВЫ КАЖАЦЕ. У МЯНЕ НІКОГА НЕ БЫЛО, АКРАМЯ ВАС, V! ВЫ МОЙ АДЗІНЫ..."

ЛГУННЯ! КУРВА! БУДЗЕШ АДМАЎЛЯЦЦА АД ТАГО, ШТО ГУЛЯЛА З ГЭТЫМ АМАТАРАМ НАРУКАЎНЫХ ПАВЯЗАК І КАЗАРМ?

ШТО? ЯЗЫК ПРАГЛЫНУЛА?

ТАК Я І ДУМАЎ.


ВОСЬ І ЦУДОЎНА. УСЁ ВЫКРЫТА. НАРЭШЦЕ ВЫ НЕ МАЁ ПРАВАСУДДЗЕ. ЗАРАЗ ВЫ ЯГО ПРАВАСУДДЗЕ, ВЫ АДДАЛІСЯ ЯМУ!
І Ў ГЭТУЮ ГУЛЬНЮ ГУЛЯЦЬ МОГУЦЬ ТОЛЬКІ ДВОЕ.


"Я РЫДАЮ, Я ПЛАЧУ. Х-ХТО ЯНА,V? ЯК ЯЕ КЛІЧУЦЬ? "
ЯЕ КЛІЧУЦЬ АНАРХІЯ. ЯНА ДАЛА МНЕ БОЛЕЙ, ЧЫМ ВЫ!


ГЭТА ЯНА НАВУЧЫЛА МЯНЕ, ШТО ПРАВАСУДДЗЕ БЕССЭНСОЎНА БЕЗ СВАБОДЫ,ЯНА СУМЛЕННА - НЕ ДАЕ АБЯЦАНАК І НЕ ПАРУШАЕ ІХ. У АДРОЗНЕННІ АД ВАС.
ТАМУ Я І ЗДЗІЎЛЯЮСЯ, ЧАМУ ВЫ НЕ МАГЛІ ГЛЯДЗЕЦЬ МНЕ Ў ВОЧЫ. ЗАРАЗ ЗРАЗУМЕЛА.


БЫВАЙЦЕ,СПАДАРЫНЯ, МНЕ БУДЗЕ ВАС НЕ ХАПАЦЬ, ХОЦЬ ВЫ УЖО НЕ ТАЯ ПАНІ, ЯКУЮ Я КАХАЎ КАЛІСЬЦІ.
А ГЭТА РАЗВІТАЛЬНЫ ПАДАРУНАК,Я КЛАДУ ЯГО ДА ВАШЫХ СТОП.










ПОЛЫМЯ СВАБОДЫ, ЯК ЦУДОЎНА І СПРАВЯДЛІВА. АХ, АНАРХІЯ, АХ ЧАРОЎНАСЦЬ МАЯ...

ЭПІЛОГ.

СПАДАР ПРАТЭРА... ЛЬЮІС...ГЭТА Я, ФІНЧ, Я ВАШ СЯБАР, ЛЬЮІС, ВАШ СЯБАР.

ВЫ МЯНЕ ЧУЕЦЕ?

Я ЖАДАЮ ВЕДАЦЬ, ШТО АДБЫЛОСЯ, ЛЬЮІС. Я ЖАДАЮ ВЕДАЦЬ, ШТО ЁН ЗРАБІЎ З ВАМІ.

ЦІ ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ПРА КАГО Я КАЖУ, ЛЬЮІС?

Я КАЖУ ПРА ЧАЛАВЕКА Ў ПЛАШЧЫ.

Я КАЖУ ПРА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ПАСМІХАЕЦЦА.

МА-МА...

БОЖА, Я ДУМАЎ, ШТО МЫ АДВУЧЫЛІ ЯГО АД ГЭТАЙ "МА-МЫ"...

УСЁ ДОБРА, ЛЬЮІС. ВЫ Ў БЯСПЕЦЫ. МЫ ВАШЫ СЯБРЫ. ЁН НЕ ПРЫНЯСЕ ШКОДЫ. ЁН НЕ ЗНОЙДЗЕ ВАС.

ЛЬЮІС?

НІЯКАЙ КАРЫСЦІ. ШТО Б ГЭТЫ ПАДОНАК НІ ЗРАБІЎ, ГЭТА НЕМАГЧЫМА ПАВЯРНУЦЬ.

ПОЙДЗЕМ, ДАМІНІК. ПАСПРАБУЕМ РАЗШАВЯЛІЦЬ ЯГО ПАСЛЯ КУБАЧКА ГАРБАТЫ І ПАРТЫІ Ў КАРТЫ. ПЕРАПЫНАК НА ПЯЦЬ ХВІЛІН.

ПЯЦЬ...

ПЯЦЬ...

НУМАР ПЯЦЬ.

ПЯЦЬ.



ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ. 15 СНЕЖНЯ 1997 ГОДУ.

V.V.V.V.V.V.

ІВІ. ІВІ. ІВІ. ІВІ. ІВІ.

ЧАСАМ МНЕ СТРАШЭННА ХОЧАЦЦА СТУКНЦЬ ЦЯБЕ ПА ТВАЁЙ ДУРНОЙ УСМЕШЛІВАЙ ФІЗІЯНОМІІ. "V.V.V.V.V.V." – ГЭТА ПРОСТА НАДПІС НА ТОЙ АРЦЫ Ў ВЯЛІКАЙ ЗАЛЕ. ТЫ ГЭТА ВЫДАТНА ВЕДАЕШ.

Я Б ХАЦЕЛА ДАВЕДАЦЦА, ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ВОСЬ І ЎСЁ.

ГЭТА ЦЫТАТА. ДЭВІЗ. "VI VERI VENI VERSUM VIVUS VICI"

СІЛАЙ ПРАЎДЫ Я ЯШЧЭ ПРЫ ЖЫЦЦІ ЗАВАЯВАЎ СУСВЕТ. ЛАТЫНЬ.

ХМММ, Я ДУМАЮ, НАПЭЎНА ТАК І ЁСЦЬ. БО ТЫ МОЖАШ РАБІЦЬ УСЁ, ШТО ПАЖАДАЕШ, ТАК? МАЖЛІВА. ГЭТА І ЁСЦЬ ЗАВАЁВА СУСВЕТУ. РАБІЦЬ УСЁ, ШТО ПАЖАДАЕШ.

ЗНАЧЫЦЬ, СУСВЕТ ЗМЯШЧАЕЦЦА Ў ГЭТЫХ СЦЕНАХ.

ГЭТА НЕПАКОІЦЬ ЦЯБЕ?

НЕ. ДА, ХМ, НЕ ВЕДАЮ.

ТОЛЬКІ Я ЎВЕСЬ ЧАС ДУМАЮ АБ ГЭТЫМ. БО Я ПАВІННА ДАПАМАГАЦЬ ЦЯБЕ, ЯК ТЫ ДАПАМАГАЕШ МНЕ. НУ, У СЭНСЕ, ГЭТА Ж ПАГАДНЕННЕ, ТАК?

НІЯКІХ ПАГАДНЕННЯЎ, ІВІ. КАЛІ ТОЛЬКІ САМА ПАЖАДЕШ.

Я...Я ДУМАЮ, ШТО ЖАДАЮ. У СЭНСЕ ЧАСТКА МЯНЕ ЖАДАЕ ЗАСТАЦЦА ТУТ НАЗАЎСЁДЫ. НІКОЛІ НЕ ВЫХОДЗІЦЬ І НЕ ВЕДАЦЬ, ШТО ТАМ АДБЫВАЕЦЦА.

АЛЕ ГЭТА НЯПРАВІЛЬНА, ТАК? Я НЕ НАВУЧУСЯ АДКАЗВАЦЬ ЗА СЯБЕ. Я ХАЧУ ДАПАМАГЧЫ ТАБЕ, V. Я ХАЧУ ЗРАБІЦЬ ШТОСЬЦІ.

Я НЕ БУДУ ЗАМІНАЦЬ, АБЯЦАЮ.МОЖНА? ЦІ МОЖАМ МЫ ДАМОВІЦЦА?


КАЛІ ПАЖАДАЕШ. ЗДАЕЦЦА, Я ВЕДАЮ, ЧЫМ ТЫ МОЖАШ МНЕ ДАПАМАГЧЫ, І ГЭТА БУДЗЕ ХУТКА. ВЕЛЬМІ ХУТКА.
МЫ МОЖАМ ДАМОВІЦЦА.


ДОБРА. ТАК І БУДЗЕ.
ТЫ КАЗАЎ, ШТО "V.V.V.V.V.V." – ГЭТА ЦЫТАТА. З КАГО?
НАЎРАД ЦІ ТЫ ПРА ЯГО ЧУЛА. ГЭТА НЕМЕЦКІ СПАДАР ІАГАН ГЁТЭ.


ЁН КАЛІСЬЦІ ТАКСАМА ДАМОВІЎСЯ.


ВЭСТМІНСТЭРСКАЕ АБАЦТВА. 12 СНЕЖНЯ.
О ТЫ, ЧЫЯ СТОПЫ ЗАКАВАНЫЯ Ў ЖАЛЕЗА, ЧЫЁ СЭРДЦА – ЗАГАРТАВАНАЯ СТАЛЬ, ХТО ПАСЛАЎ НАМ ГЭТЫ ДЗЕНЬ, ДА ТРОНА ЯКОГА МЫ ПРЫПАДЗЁМ...


ТЫ, ХТО ПАСЛАЎ НАМ ПОЛЫМЯ І ДОЖДЖ ,АЧЫШЧАЛЬНЫ Ў НОЧЫ, ЗЛО ВЫКАРАНІЎШЫ МЯЧОМ СВАІМ І СПАКОЙ ПАДАРЫЎШЫ НАМ.


АДЗІНА РАСА НАША, АДЗІН РОД НАШ, АДЗІНА ВЕРА Ў ЦЯБЕ, ХТО ПАКАХАЎ НАС У БОЛІ НАШАМ, ХТО НЕ ДАЎ УПАСЦІ НАМ, БО ІЗНОЎ ПАВІННЫ МЫ АКРЫЯЦЬ!


ПАМОЛІМСЯ!
БОЖА ЎСЕМАГУТНЫ, ТЫ АДДАЛІЎ СТРАШНЫ СУД І СУРОВА ПЕРАСЦЯРОГ НАС...


ДАПАМАЖЫ СТАЦЬ НАМ ГОДНЫМ ЛІТАСЦЯЎ ТВАІХ, ЯК ГОДНЫ МЫ БЫЛІ , КАЛІ АДХІЛІЎ ГНЕЎ СВОЙ, КАЛІ ЗРЫНУЎСЯ АГОНЬ НЯБЕСНЫ.
ДАПАМАЖЫ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ СПАКУСЕ Д'ЯБАЛЬСКАЙ, ЯКАЯ ПАСЛАНА НАМ У ЧАС ВЫПРАБАВАННЯЎ.

БО БЫЛО У МЯНЕ ЎЯЎЛЕННЕ... ЯК У НОЧЫ З'ЯВІЛАСЯ ЗЛО БЯЗЛІТАСНАЕ, КАБ УВОДЗІЦЬ У СПАКУСУ СЛАБЫХ ДЫ ГРЭШНЫХ.
ПРАКЛЁН У ЦЕЛЫ, ЁН НАМАГАЕЦЦА ПЕРАКРЫВІЦЬ ПРАЎДУ ІЛЖЫВЫМІ ВЫСЛОЎЯМІ.
БОЖА ЎСЕМАГУТНЫ, ЛЁС І ПРЫЗНАЧЭННЕ НАША, ДАПАМАЖЫ НАМ ЗРАЗУМЕЦЬ ВОЛЮ ТВАЮ.
ДАПАМАЖЫ ВЫСТАЯЦЬ ПЕРАД ЗЛОМ І ЗАСТАЦЦА ЦВЁРДЫМІ Ў НАШАЙ ВЕРЫ, АДЗІНА РАСА НАША, АДЗІНА НАЦЫЯ НАША І НАША ВЕРА АДЗІНА.
АБ ГЭТЫМ І МОЛІМ ЦЯБЕ, ВА ІМЯ АЙЦА, СЫНА І СВЯТОГА ДУХА...
ЗАСТУПНІЦТВАМ ІСУСА ХРЫСТА.
АМІНЬ.
Глава 6
Vэстмінстар
ПРЫВІТАННЕ, ДЭРЭК, ПРЫВІТАННЕ, РОЗМАРЫ. НАРЭШЦЕ МОЖАМ ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ. ЯК СПРАВЫ?
ПРЫВІТАННЕ, КОНРАД, ПРЫВІТАННЕ, ХЭЛЕН.НЕ ВЕЛЬМІ ДРЭННА. СТАРЫ КРЫХУ ЗАДЗЯЎБАЎ МЯНЕ З-ЗА ГЭТАГА ТЭРАРЫСТА, АЛЕ ГЭТА НЕ ВЕЛЬМІ ІСТОТНА. А ЯК ВОКА?
НУ, У НАС БЫЛІ НЕКАТОРЫЯ ТЭХНІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ З ВІКАДЭРАМІ"МАРК Х", АЛЕ...
КОНРАД, НЕ БУДЗЬ ТАКІМ НУДНЫМ.РАСПАВЯДЗІ ПРА ТЭРАРЫСТА, ДЭРЭК. ЦІ ПРАЎДА, ШТО ЁН УЗАРВАЎ ОЛД-БЭЙЛІ?

НАЖАЛЬ, ТАК І ЁСЦЬ. АЛЕ МЫ ЯГО ЗНОЙДЗЕМ. РАНЕЙ ЦІ ПАЗНЕЙ ЁН ЗРОБІЦЬ ПАМЫЛКУ, І ВОСЬ ТАДЫ...

АХ, ГЭТА ТАК УЗБУДЖАЕ... ЦІ РАДА, ШТО ТЫ ЗАМУЖАМ ЗА ГЭТЫМ АГІДНЫМ І ЖОРСТКІМ ТЫПАМ, РОЗМАРЫ?

ХА-ХА, НУ Я...

ТАБЕ ДЗЕЙСНА ПАШАНЦАВАЛА. БО ТЫ МАГЛА Б ВЫЙСЦІ ЗАМУЖ ЗА ПРАФЕСІЯНАЛЬНАГА ВЫВЕДНІКА, ЯК КОНРАД. ЁН САМЫ ВЫСОКААПЛАТНЫ ВУАЕРЫСТ АНГЛІІ. ТАК, ДАРАЖЭНЬКІ?

ХЕЛЕН, Я ДУМАЮ, НАМ ЛЕПЕЙ...

Я ВЕДАЮ. ТЫ ХОЧАШ ПАХУТЧЭЙ ДАДОМУ. ПАГЛЯДЗЕЦЬ, ЧЫМ ЗОЙМУЦЦА СУСЕДЗІ ПАСЛЯ АБЕДУ. ГЭТА ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ САМІМ ЧЫМСЦІ ЗАНЯЦЦА.

ЧАО!

ХА-ХА-ХА! БЫВАЙ, ХЕЛЕН! БЫВАЙ, КОНРАД!

ДА СУСТРЭЧЫ!

ЦІ НЕ ЗАНАДТА ЯНА ДАВІЦЬ НА НЯГО?

ВЕДАЕШ, КАЛІ Б ТЫ БЫЛА Б ТАКОЙ ХОЦЬ НАПАЛОВУ, ВЫТАНЧАНАЙ І ЖВАВАЙ, ЯК ХЕЛЕН ХЭЙР, ТЫ МЕЛА Б ПРАВА ТАК КАЗАЦЬ ПРА ЯЕ. НА ТВАЕМ БЫ МЕСЦЫ Я Б ЗАБІЎ ЗЯПУ.

ПРОСТА ЗАБІЎ БЫ І ЎСЁ.

АХ, ВОСЬ І ЯНЫ, ШЧАСЛІВЫЯ І ЗАДАВОЛЕНЫЯ ВЕРНІКІ...

ДУХОЎНА АСВЕЖАНЫЯ І ПАДРЫХТАВАНЫЯ ДА НОВАЙ СУСТРЭЧЫ З МІРАМ. ВАМ СПАДАБАЛАСЯ ПРОПАВЕДЗЬ,ДЭНІС?

ЦУДОЎНА, ВАША ПРАПАДОБНАСЦЬ. АДНАК Я НЕ ЗУСІМ УПЭЎНЕНЫ НАКОНТ САТАНЫ СЯРОД НАС.

ЭЭЭЭ...ДА, БАЮСЯ, ШТО ГЭТА БЫЛО ЗАНАДТА ЗАКРУЧАНА,АЛЕ ЛЁС ПАЖАДАЎ, КАБ Я ПРА ГЭТА ЗГАДАЎ. А ХТО МЫ, ГРЭШНІКІ, КАБ СПРАЧАЦЦА З УСЕМАГУТНЫМ?

ДАРЭЧЫ ПРА ГРЭХ. ЦІКАВА, ЯКІМ З СЯМІ СМЯРОТНЫХ ГРАХОЎ БОГ БУДЗЕ МЯНЕ ВЫПРАБОЎВАЦЬ СЁННЯ?

МАЖЛІВА, ГАНАРЫСТАСЦЮ, ВАША ПРАПАДОБНАСЦЬ?


ХА-ХА, ШТО ДАТЫЧЫЦЦА МЯНЕ, Я ДУМАЎ АБ МЕНШ АБСТРАКТНАМ.
ЦІ ЮНАЯ ЛЕДЗІ ПРЫШЛА, ДЭНІС?


ЯНА ТУТ, ВАША ПРАПАДОБНАСЦЬ. ЧАКАЕ ЗНАДВОРКУ.


НА МАЮ ДУМКУ, У АГЕНЦТВЕ ШТОСЬЦІ НАБЛЫТАЛІ. ЗВЫЧАЙНА ПРЫСЫЛАЮЦЬ БОЛЬШ МАЛОДШЫХ...


ДЭНІС, ДАРАГІ ТЫ МОЙ! СПАДЗЯЮСЯ,ЯНА НЕ ЗАНАДТА ДАРОСЛАЯ?
ЯНА КАЖА,ШТО ЁЙ ПЯТНАЦЦАЦЬ, ВЕЛЬМІ ВЕТЛІВАЯ ДЗЯЎЧЫНА. ВАША ПРАПАДОБНАСЦЬ, КАЛІ ДАЗВОЛІЦЕ.


ПЯТНАДЦАЦЬ? ХМММ...


ШТО Ж, ІОВ ЗМІРЫЎСЯ З ПАСЛАНЫМІ ЯМУ ВЫПРАБАВАННЯМІ. ТРЭБА ДУМАЦЬ, І МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЯК-НЕБУДЗЬ ЗМІРЫЦЦА З ВЫПРАБАВАННЯМІ, ЯКІЯ БЫЛІ ДАСЛАНЫЯ МНЕ. ВЯДЗІ ЯЕ СЮДЫ, ДЭНІС.
ХВІЛІНАЧКУ, ВАША ПРАПАДОБНАСЦЬ.




ЮНАЯ ЛЕДЗІ, ВАША ПРАПАДОБНАСЦЬ.
ВЕЛЬМІ ДЗІЎНА! ЯК ТОЛЬКІ Я МОГ СУМНЯВАЦЦА Ў ТВАІМ ХАРАСТВЕ! MEA CULPA, МАЯ ДАРАЖЭНЬКАЯ, MEA CULPA.
ТЫ ЦУД! АНЁЛЬСКАЕ ЎЯЎЛЕННЕ!


Э-Э... НУ... ДЗЯКУЙ.

КАЛІ ЛАСКА, ДЗІЦЁ МАЁ, НЕ ДЗЯКУЙ...

ГЭТА Я ПАВІНЕН ЦЯБЕ АДДЗЯЧЫЦЬ...

ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.

ЁСЦЬ ЛУК ЖАДАННЯ ЗАЛАТЫ, СТРЭЛЫ ЗАХАПЛЕННЯ Ў МЯНЕ. НЯХАЙ ХМАРЫ ГРОЗНЫЯ ПРЫМЧАЦЬ

МОЙ ДУХ У БАРАЦЬБЕ НЯЗЛОМНЫ,

МОЙ ВЕРНЫ МЕЧ ЗАЎСЁДЫ СА МНОЙ...

МЫ ПАБУДУЕМ ІЕРУСАЛІМ

У ЗЯЛЁНАЙ АНГЛІІ РОДНАЙ.



ВЭСТМІНСТЭРСКАЕ АБАЦСТВА. 20 СНЕЖНЯ 1997 ГОДА.

ВОСЬ, ДЖЭНТЭЛЬМЭНЫ, ГЭТА САГРЭЕ ВАС НА ПАСТУ.

ДЗЯКУЮ, ДЭНІС. А ЦІ ВЫ НЕ ПАВІННЫ БЫЦЬ ПРЫ ЯГО ПРАПАДОБНАСЦІ?

УПЭЎНЕНЫ, ЯГО ПРАПАДОБНАСЦЬ НЕ БУДЗЕ ПЯРЭЧЫЦЬ, КАЛІ Я ВЫЯЎЛЮ КРЫХУ ХРЫСТЫЯНСКАЙ ЛІТАСЦІ ДА ЯГО АНЁЛАЎ-АБАРОНЦАЎ.

АЛЕ, КАЛІ ШЧЫРА, ХЛОПЦЫ, Я НАВОГУЛЕ НЕ РАЗУМЕЮ, ШТО ВЫ ТУТ РОБІЦЕ. ВЫ НЕ КРЫЎДУЙЦЕ, АЛЕ ПРЫГЛЯДВАЦЬ ЗА ЯГО ПРАПАДОБНАСЦЮ - ГЭТА МАЯ СПРАВА.

ТАК, БЫЦЦАМ ЗАГАД... АД ПРЫГАЖУНЧЫКА ОЛДМАНДА. З-ЗА ГЭТАГА ТЭРРАРЫЗМА ЎСЯМУ НАЧАЛЬСТВУ ХВАСТЫ ПАВЫКРУЧВАЛІ.

КОЖНАЙ ШЫШЦЫ АХОВУ ПАДВОІЛІ. Я ДУМАЮ,ШТО ГЭТА ЎСЁ - МАРНАВАННЕ ЧАСУ.

УХ, ДЭНІС, ПРОСТА ДАХ ЗНОСІЦЬ! З АСАБІСТЫХ ЗАПАСАЎ ЯГО ПРАПАДОБНАСЦІ,ТАК?

НІЧОГА. ЁН НЕ ХОПІЦЦА. ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫПАДКУ, НЕ СЁННЯ. БО ЗАРАЗ У ЯГО МІЛАСЦІ ДРУГІЯ ПРЫСМАКІ.

ПРЫСМАКІ? ШТО? А-А... ТАЯ,З КАСІЧКАМІ. ВЕЛЬМІ МІЛЕНЬКАЯ.

НУ ВОСЬ ДАЕ ДЗЕД, ПРОСТА ЯК ГУРОК. АДКУЛЬ У ЯГО МОЦЫ ХАПАЕ?

БОГ ДАПАМОГ. БО ТОЛЬКІ ГРЭШНІКІ НЕ ВЕДАЮЦЬ СПАКОЮ...

А ПРАВЕДНЫ АДРЫВАЕ ЛЮБЫ КАВАЛАК, ЯКІ ПАЖАДАЕ.

Глава 7

**Высока-маральнасць пераможа**

У ПАКОІ.

ЗРАЗУМЕЛА, ЯК Я КАЖУ: "ЗНЕНАВІДЗЬ ГРЭХ,АЛЕ ПАЛЮБІ ГРЭШНІКА". ХА-ХА-ХА-ХА!

ХА.

ЗАРАЗ, КАЛІ МЫ ЗРОБІМ НАСТУПНЫ КРОК, МЫ...

ПРАБАЧЦЕ, ВЫ НЕ СУПРАЦЬ, КАЛІ Я АДЧЫНЮ АКНО?

АКНО?

НУ... ТАКАЯ ЦУДОЎНАЯ НОЧ, ВЕТРЫК...

Я ЛЮБЛЮ ШУМ ВЕТРУ, МНЕ ЗДАЕЦЦА, ГЭТА... НУ.. ТАК УЗБУДЖАЕ... РАЗУМЕЕЦЕ?

УЗБУДЖАЕ. ВЯДОМА УЗБУДЖАЕ.

МНЕ ГЭТА ПАДАБАЕЦЦА. ДЗІКІ СТАРАЖЫТНЫ ІНСТЫНКТ. НЕ ВАРТА ГРЭБАВАЦЬ НАШЫМІ СТАРАЖЫТНЫМІ ІНСТЫНКТАМІ.

ТЫ ЗГОДНА?

БУЙНЫЯ, ТАЯМНІЧЫЯ СІЛЫ ЎТОЙВАЮЦЦА Ў ЦЁМНАЙ ЧАЛАВЕЧАЙ ДУШЫ...

НЕВЫМОЎНЫЯ ТАЕМНЫЯ ЗНЯМОГІ...

КАЛІ НАСТАЕ ІХ ЧАС, НЕ ВАРТА АДВЯРГАЦЬ ІХ...


ТЫ Ж АДЧУВАЕШ ГЭТА, ТАК?
Я ВЕДАЮ, АДЧУВАЕШ.


НУ ТАК... І ЁСЦЬ.
Э-Э... У ВАС ВЕЛЬМІ ПРЫЕМНЫ ГОЛАС. БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ХВАЛЮЮЧА, КАЛІ ВЫ ПРАЧЫТАЕЦЕ НЕШТА РЭЛІГІЁЗНАЕ.


ХВАЛЮЮЧА?
НУ... ХЕ-ХЕ. ЗВЫЧАЙНА Я НЕ ЧЫТАЮ ПРАПАВЕДЗІ САМ-НАСАМ. АЛЕ КАЛІ ТЫ ТАКАЯ ЎСПРЫМАЛЬНАЯ...
ТАК. Я ЎСПРЫМАЛЬНА ЯШЧЭ ЯК.


ШТО Ж... У МЯНЕ ЁСЦЬ ЦУДОЎНАЯ ПРАПАВЕДЗЬ. Я ЗНАЙШОЎ ЯЕ РАНКАМ.
ЯНА Ў ДРУГІМ ПАКОІ. МАЖЛІВА, ТЫ ПОЙДЗЕШ СА МНОЙ...


ТАК, ВЯДОМА.




ДРУГІ ПАКОЙ.
О, ГЭТА І ЁСЦЬ ТОЙ САМЫ ПАКОЙ?
ТАК. НЕ ЗАНАДТА ЭКСТРАВАГАНТНА, СПАДЗЯЮСЯ?
НЕ-НЕ. САПРАЎДЫ ЦУДОЎНЫ ПАКОЙ.


ДОБРА, СЯДАЙ... ПРАБАЧ, КРЭСЛАЎ У МЯНЕ НЯМА... ПАЧНЕМ.


БОЖА ЎСЕМАГУТНЫ...


...ТЫ АДДАЛІЎ
СТРАШНЫ СУД І
СУРОВА ПЕРАСЦЯРОГ НАС.


ДАПАМАЖЫ СТАЦЬ НАМ ГОДНЫМ
ЛІТАСЦЯЎ ТВАІХ,
ЯК ВАРТЫ МЫ БЫЛІ,
КАЛІ ТЫ АДХІЛІЎ ГНЕЎ СВОЙ...
...КАЛІ ЗРЫНУЎСЯ АГОНЬ НЯБЕСНЫ.


ДАПАМАЖЫ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ СПАКУСЕ
Д'ЯБАЛЬСКАЙ ...


... ЯКАЯ ПАСЛАНА НАМ У ЧАС
ВЫПРАБАВАННЯЎ.


БО БЫЛО У МЯНЕ
ЎЯЎЛЕННЕ...


...ЯК У НОЧЫ З'ЯВІЛАСЯ
ЗЛО БЯЗЛІТАСНАЕ, КАБ
УВОДЗІЦЬ У СПАКУСУ
СЛАБЫХ ДЫ ГРЭШНЫХ...




ПРАКЛЁН У ЦЕЛЫ, ЁН НАМАГАЕЦЦА
ПЕРАКРЫВІЦЬ ПРАЎДУ ІЛЖЫВЫМІ
ВЫСЛОЎЯМІ.
БОЖА
ЎСЕМАГУТНЫ...

...ЛЁС І ПРЫЗНАЧЭННЕ НАША...

...ДАПАМАЖЫ НАМ ЗРАЗУМЕЦЬ ВОЛЮ ТВАЮ.

ДАПАМАЖЫ ВЫСТАЯЦЬ ПЕРАД ЗЛОМ І ЗАСТАЦЦА ЦВЁРДЫМІ Ў НАШАЙ ВЕРЫ, АДЗІНА РАСА НАША, АДЗІНА НАЦЫЯ НАША І НАША ВЕРА АДЗІНА.

АБ ГЭТЫМ І МОЛІМ ЦЯБЕ, ВА ІМЯ АЙЦА...

...СЫНА...

... І СВЯТОГА ДУХА...

АМІНЬ.

ЗНІМІ СУКЕНКУ, КАЛІ ЛАСКА.

ШТО ???

АЛЕ ПАЧАКАЙЦЕ, Я...

НІЧОГА, НІЧОГА... ДАЗВОЛЬ, Я САМ...


АХ ТЫ... БРУДНАЯ... МАЛЕНЬКАЯ... КУРВА!
Я ЗАБ'Ю ЦЯБЕ.


ЗАБ'Ю.


ТЫ АД МЯНЕ НЕ СХАВАЕШСЯ, МАЛЕНЬКАЯ ПРАШМАНДОЎКА! УСЕ ДЗВЕРЫ ЗАЧЫНЕНЫЯ.
Я ЗНАЙДУ ЦЯБЕ! Я...


ДАЗВОЛІЦЕ АДРЭКАМЕНДАВАЦЦА..


...Я ЧАЛАВЕК ЗАМОЖНЫ...


... І З ГУСТАМ...








ВУХА. 20 СНЕЖНЯ 1997 ГОДА.
НУ?


ШТО «НУ»?
ШТО ЗНАЧЫЦЬ «НУ»?
ШТО Ж ТАКОЕ..


БОЖУХНА, НОРМ, ВЫКЛЮЧЫ, У МЯНЕ АД ГЭТАГА ГАЛАВА БАЛІТ.
ШТО?


ЦІХАЯ НОЧ.
ЦІХАЯ? ЯНА ПАДЫХАЕ ПРОСТА, СЯБРА. ШТО НАОГУЛ АДБЫВАЕЦЦА? УСЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ АДВУЧЫЛІСЯ?
«ШТО?» ШТО «ШТО»? ДАЙ АДПАЧЫЦЬ.


ШТО З ЛЮДЗЬМІ АДБЫВАЕЦЦА? ЧАМУ НІХТО НЕ МАРКІТУЕЦЦА Ў ВЕЧАР НЯДЗЕЛІ?
Я, НАПРЫКЛАД, НЕ МАРКІТУЮСЯ, ТАМУ ШТО У МЯНЕ НАЧНАЯ ЗМЕНА З ІДЫЁТАМ.
МОЖА БІСКУПА ПАСЛУХАЕМ?


АХ,СЁННЯ Ж НЯДЗЕЛЯ. «ДЗІЦЯЧЫ ЧАС». ЛЕДЗЬ УСЮ АСАЛОДУ НЕ ЗГУБІЛІ.
ДАВАЙ, УКЛЮЧАЙ. ПАГЛЯДЗІМ, ШТО НА ГЭТЫ РАЗ ПРЫДУМАЎ СТАРЫ РАСПУСНІК.
ПАЧАКАЙ-КА.


...БЫЎ САПРАЎДНЫ АД... ЧАЛАВЕК ГАРЭЎ... ЗАДЫХАЎСЯ Ў ЖОЎТЫМ ДЫМУ...
ГЭТА ЯГО МІЛАСЦЬ. ЧУЕШ, У НЯГО МУЗЫКА ГРАЕ?


... І Я ПАБАЧЫЎ У ПОЛЫМІ ШТОСЬЦІ ЧОРНАЕ, ЧАЛАВЕКА. БОЖА, ХТО ВЫ?
Я Д'ЯБАЛ, І ЗДАБЫЧА МАЯ Д'ЯБАЛЬСКАЯ.


МУЖЧЫНСКІ ГОЛАС.
РЭХА ПРЫБЯРЫ.


НЕ... НЕ. УСЁ НАЛАДЖАНА.
У МЯНЕ НЯМА ІМЯ.
СЛУХАЙ.


ВЫ МОЖАЦЕ ЗВАЦЬ МЯНЕ V.


БОГ- ПАСТЫР МОЙ, МНЕ НІЧОГА НЕ БУДЗЕ ПАТРЭБНА. ЁН СУПАКОЙВАЕ МЯНЕ НА УРАДЛІВЫХ СЕНАЖАЦЯХ І ВЯДЗЕ МЯНЕ ДА ЦІХІХ ВОД...


ТЭЛЕФАНУЙ БОНІ ЭТЭРЫДЖУ, БУДЗІ ЯГО. І ГЭТАМУ, ПАЛЬ-ЦЭЙСКАМУ, ЯК ЯГО... ОЛМАНДУ.
І ЭРЫКУ ФІНЧУ.
...ПАДМАЦОЎВАЕ ДУШУ МАЮ, НАКІРОЎВАЕ МЯНЕ НА ШЛЯХІ ПРАЎДЫ ДЗЕЛЯ ІМЯ СВАЙГО...


...КАЛІ Я ПАЙДУ І ДАЛІНАЮ СМЯРОТНАГА ЦЕНЮ, НЕ ПАБАЮСЯ ЗЛА.
ХАЛЕРА.
ВОСЬ ХАЛЕРА.
Глава 8
Vіялет Карсан


ВЭСТМІНСТЭРСКАЕ АБАЦТВА. ПАЗНЕЙ.




ПРЫВІТАННЕ, ОЛМАНД.
ПРЫВІТАННЕ.















ХТО ГЭТА, ДАМІНІК?


ХТО ГЭТА ТАМ, ЗНАДВОРКУ?


ВУХА.
21 СНЕЖНЯ 1997 ГОДА.


НУ ШТО, БРАЙАН, ЁСЦЬ НАВІНЫ?
ЭЭЭ... ГЭТА СКЛАДАНА,ЭРЫК. МУЗЫКА ЗАМІНАЕ.


У БОЛЬШАСЦІ ВЫПАДКАЎ МЫ МОЖАМ ЯЕ ВЫДАЛІЦЬ, АЛЕ НЕ ЎСЮДЫ. ТАМУ ЧАСТКА... РАЗМОВЫ БУДЗЕ ЗГУБЛЕНА...
ДУМАЮ, ГЭТЫ... ЯКІ V... АДМЫСЛОВА ЯЕ УКЛЮЧЫЎ.








ХТО ГЭТА, ДАМІНІК?


ХТО ГЭТА ТАМ, ЗНАДВОРКУ?


ВУХА.
21 СНЕЖНЯ 1997 ГОДА.


НУ ШТО, БРАЙАН, ЁСЦЬ НАВІНЫ?
ЭЭЭ... ГЭТА СКЛАДАНА,ЭРЫК. МУЗЫКА ЗАМІНАЕ.


У БОЛЬШАСЦІ ВЫПАДКАЎ МЫ МОЖАМ ЯЕ ВЫДАЛІЦЬ, АЛЕ НЕ ЎСЮДЫ. ТАМУ ЧАСТКА... РАЗМОВЫ БУДЗЕ ЗГУБЛЕНА...
ДУМАЮ, ГЭТЫ... ЯКІ V... АДМЫСЛОВА ЯЕ УКЛЮЧЫЎ.

ПЯТАЯ СІМФОНІЯ БЕТХОВЕНА.

ТА...ТА...ТА... ...ТА...ТА... ...ТАМ!

Э...Э...Э... ДАРЭЧЫ, ГЭТА Ж АЗБУКА МОРЗЭ.

АЗБУКА МОРЗЭ?

ТАК. ЛІТАРА V.

ХМ...

ВЭСТМІНСТЭРСКАЕ АБАЦТВА.

УВОГУЛЕ, БІСКУПА ЁН ЗАСПЕЎ ЗНЯНАЦКУ ДЗЕСЬЦІ ТУТ. БІСКУП ВЫЙШАЎ І СУТЫКНУЎСЯ З ІМ.

З ТАГО МОМАНТУ ДЗЯЎЧЫНУ, З ЯКОЙ БЫЎ БІСКУП, НЕ ЧУВАЦЬ. ДУМАЮ, МЫ МОЖАМ ДАПУСЦІЦЬ, ШТО ЯНА БЫЛА САЎДЗЕЛЬНІЦАЙ І ПРОСТА ЦІХЕНЬКА ЎЦЯКЛА.

МАЛЕНЬКІЯ ДЗЯЎЧЫНКІ, ШЧЫРА КАЖУЧЫ... МЫ ТУТ ЧАСОПІСЫ ЗНАЙШЛІ.

ДАЙ МНЕ ХВІЛІНАЧКУ ПАДУМАЦЬ, ДАМІНІК... ЗДАЕЦЦА ПЕРАД ТЫМ,ЯК УЦЯЧЫ, ДЗЯЎЧО ВЫВЕРНУЛА ПРОБКІ ДЫ ВЫКЛЮЧЫЛА СВЯТЛО.

ТАМУ ГАДЗІННІК ТАКСАМА ВЫКЛЮЧЫЎСЯ І СПЫНІЎСЯ Ў ПЯЦЬ ГАДЗІН ТРЫННАЦАЦЬ ХВІЛІН.

ЁН УШТУРХНУЎ БІСКУПА Ў ГЭТЫ ПАКОЙ.

А ПОТЫМ ПАСТАВІЎ ПЛАСЦІНКУ.

СТЭРЭАСІСТЭМА ПАДЛУЧАНА ДА ІНШАГА КОНТУРУ.

ПЯТАЯ СІМФОНІЯ БЕТХОВЕНА.

ТА...ТА...ТА... ...ТА...ТА... ...ТАМ!

Э...Э...Э... ДАРЭЧЫ, ГЭТА Ж АЗБУКА МОРЗЭ.

АЗБУКА МОРЗЭ?

ТАК. ЛІТАРА V.

ХМ...

ВЭСТМІНСТЭРСКАЕ АБАЦТВА.

УВОГУЛЕ, БІСКУПА ЁН ЗАСПЕЎ ЗНЯНАЦКУ ДЗЕСЬЦІ ТУТ. БІСКУП ВЫЙШАЎ І СУТЫКНУЎСЯ З ІМ.

З ТАГО МОМАНТУ ДЗЯЎЧЫНУ, З ЯКОЙ БЫЎ БІСКУП, НЕ ЧУВАЦЬ. ДУМАЮ, МЫ МОЖАМ ДАПУСЦІЦЬ, ШТО ЯНА БЫЛА САЎДЗЕЛЬНІЦАЙ І ПРОСТА ЦІХЕНЬКА ЎЦЯКЛА.

МАЛЕНЬКІЯ ДЗЯЎЧЫНКІ, ШЧЫРА КАЖУЧЫ... МЫ ТУТ ЧАСОПІСЫ ЗНАЙШЛІ.

ДАЙ МНЕ ХВІЛІНАЧКУ ПАДУМАЦЬ, ДАМІНІК... ЗДАЕЦЦА ПЕРАД ТЫМ,ЯК УЦЯЧЫ, ДЗЯЎЧО ВЫВЕРНУЛА ПРОБКІ ДЫ ВЫКЛЮЧЫЛА СВЯТЛО.

ТАМУ ГАДЗІННІК ТАКСАМА ВЫКЛЮЧЫЎСЯ І СПЫНІЎСЯ Ў ПЯЦЬ ГАДЗІН ТРЫННАЦАЦЬ ХВІЛІН.

ЁН УШТУРХНУЎ БІСКУПА Ў ГЭТЫ ПАКОЙ.

А ПОТЫМ ПАСТАВІЎ ПЛАСЦІНКУ.

СТЭРЭАСІСТЭМА ПАДЛУЧАНА ДА ІНШАГА КОНТУРУ.


БЫЛО ЦЁМНА.
У ЦЕМРЫ ЁН УКЛЮЧЫЎ АЎДЫЁЗАПІС.
DICTAPE
А ПОТЫМ ШТОСЬЦІ СКАЗАЎ БІСКУПУ... ЯГО СЛОВЫ ГЛУШЫЦЬ МУЗЫКА.


ЗАТЫМ ПАЧАЎ ГАВАРЫЦЬ БІСКУП. ВОСЬ ГЭТА МЕСЦА.
...ПЯЦЬ. ВЯДОМА. ТАДЫ, НОЧЧУ, ГЭТА БЫЛІ ВЫ. БОЖУХНА, МНЕ ГЭТА ДАГЭТУЛЬ СНІЦЦА.
КОЖНУЮ НОЧ, УСЕ ЧАТЫРЫ ГАДЫ.


ГЭТА БЫЎ САПРАЎДНЫ АД. ЧАЛАВЕК ГАРЭЎ. ЗАДЫХАЎСЯ Ў ЖОЎТЫМ ДЫМУ.
БОЖУХНА, ХТО ВЫ? ХТО ВЫ?


Я Д'ЯБАЛ І ЗДАБЫЧА МАЯ Д'ЯБАЛЬСКАЯ.
У МЯНЕ НЯМА ІМЯ. МОЖАЦЕ К...


ГЭТА ЦЫТАТА. НАКОНТ Д'ЯБАЛЬСКАЙ ЗДАБЫЧЫ.
DICTAPE


ЗНАКАМІТАЯ СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ КАЛЯ ДВАЦЦАЦІ ГАДОЎ ТАМУ.
ЯШЧЭ ДА ЦЯБЕ, МЯРКУЮЧЫ ПА ЎСЯМУ.


ПОТЫМ ГЭТАК ЗВАНЫ Ў ЧЫТАЕ 23-ЦІ ПСАЛОМ.
Я КРЫХУ ПЕРАМАТАЮ...
ТАК, ЗДАЕЦЦА ТУТ.


...ДАЛІНАЮ СМЯРОТНАГА ЦЕНЮ, НЕ ПАБАЮСЯ ЗЛА...
ДОБРА, ДОБРА, СПЫНІМСЯ НА ГЭТЫМ.
МАБЫЦЬ, У ГЭТЫ МОМАНТ УВАЙШОЎ ДЭНІС, ПРЫСЛУЖНІК. РАПТАМ ПРАЙГРАВАЛЬНІК ВЫКЛЮЧАЕЦЦА.

ВАША МІЛАСЦЬ?
ЦІ ЎСЁ ДОБРА?

УСЁ ДОБРА, ДЭНІС.
АСЦЯРОЖНА, ЁН...

УЛІЧВАЙ, ДАМІНІК, ШТО Ў ДЭНІСА ПІСТАЛЕТ. ЦЕМРА. ЁН СТАІЦЬ У ДЗВЕРАХ.

ДОБРА, Я ЛІЧУ ДА ПЯЦІ. Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ПАДЫШОЎ ДА АКНА, РУКІ ЗА ГАЛАВУ.

РАЗ... ДВА...

«ТРЫ» УЖО НЕ БЫЛО.

І ЎСЁ ЗУСІМ БЯЗГУЧНА. У ЦЕМРЫ.

А ПОТЫМ ІЗНОЎ МУЗЫКА. БОЛЬШ ДЭНІСА МЫ НЕ ЧУЕМ.

ЯНЫ ЯШЧЭ РАЗМАЎЛЯЛІ, АЛЕ МУЗЫКА АМАЛЬ УСЁ ЗАГЛУШЫЛА. ШТОСЬЦІ ПРА РЭЛІГІЮ.

ПОТЫМ ШТОСЬЦІ НАКШТАЛТ: »ЗАБЕЙ МЯНЕ ДАЛІКАТНА»... ЛУХТА НЕЙКАЯ... І ПОТЫМ ПАЙШЛА РАЗМОВА ПРА ПРЫЧАСЦЬ І АБЛАТКІ...

ГУЧЫЦЬ СЛОВА «ПЕРАІСНЕННЕ». ЦУД ПЕРАІСНЕННЯ – ПЕРАТВАРЭННЕ АБЛАТЦЫ Ў ЦЕЛА ХРЫСТОВА. ГЭТА ФУНДАМЕНТАЛЬНАЯ ДАКТРЫНА КАТАЛІЦТВА.

А ЗАРАЗ ПАСЛУХАЙ.

...КАЛІ БЕРАЦЕ ЯЕ Ў РОТ, ЯНА ПЕРАТВАРАЕЦЦА Ў ПЛОЦЬ ВЫРАТАВАЛЬНІКА?

ТАК, ТАК, ПАСЛУХАЙЦЕ...

З ЧАГО Б ЯНА НІ БЫЛА, ЯНА ПЕРАТВАРЫЦЦА Ў ПЛОЦЬ ХРЫСТОВУ?

ТАК.
З ЧАГО Б НІ БЫЛА.




Я ХАЧУ, КАБ
ВЫ ГЭТА
ПРАГЛЫНУЛІ.


ПАСЛЯ ГЭТАГА
НЕЙКІ ДЗІЎНЫ ГУК.
ЁН САПРАЎДЫ
БЫЎ ВЫМАЎЛЕНЫ
ЧАЛАВЕКАМ.
І ІЗНОЎ
ПЯТАЯ
СІМФОНІЯ.
ПЛЁНКА
КАНЧАЕЦЦА.


МЫ ТОЛЬКІ ШТО
АТРЫМАЛІ
ВЫНІКІ ДАСЛЕДВАННЯЎ
ПАТОЛАГААНАТАМАЎ.
БІСКУПА АТРУЦІЛІ.
АБЛАТКА БЫЛА
НАСЫЧАНА
ЦЫЯНІДАМ.


І ВЕДАЕШ,
ШТО ЯШЧЭ?


КАЛІ ЯНА ПАПАЛА ЯМУ
Ў СТРАЎНІК,
ГЭТА ПА-РАНЕЙШАМУ
БЫЎ ЦЫЯНІД.





